ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 50 (2452) 14 снежня 1995 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

*ГРАМАДСКАЕ МЕРКАВАННЕ*

## ПРА ШТО СВЕДЧАЦЬ ЛІЧБЫ?

**Сацыялагічная служба пад кіраўніцтвам Андрэя Вардамацкага -- адна з нешматлікіх, якая акрамя буйных маркетынгавых даследаванняў займаецца і аператыўным вывучэннем змен грамадска-палітычных поглядаў і сімпатый насельніцтва краіны. Такая інфармацыя дапамагае скласці дакладную карціну нашага жыцця-быцця, грунтуючыся не толькі на ўласным эмацыянальна-псіхалагічным вопыце, але і ўлічваючы навукова абгрунтаваныя высновы сацыёлагаў. Такім чынам, пра што сведчаць лічбы!**

Перш за ўсё трэба ўдакладніць, што даныя атрыманы ў самым канцы кастрычніка.

Тое, што цяперашняе эканамічнае становішча ў краіне вельмі цяжкае, ведаюць усе. Але людзі часта кажуць, што жыццё як тая зебра -- паласатае: на змену "чорнаму" перыяду нешанцавання і страт калі-небудзь абавязкова прыходзіць светлы, і ўсё ўрэшце нармалізуецца. Калі паўтара года назад Беларусь дружна і натхнёна прагаласавала за выбранне шклоўскага дырэктара саўгаса А. Лукашэнкі на прэзідэнцкую пасаду, людзі спадзяваліся на хуткае паляпшэнне спраў і звязвалі гэтыя надзеі з першую чаргу з новым кіраўніком дзяржавы, які ўражваў стомленых суграмадзян сваёй энергіяй і верай ва ўласныя сілы. І вось мінула больш за год. Што ж мы бачым цяпер? На пытанне: "Ці лічыце вы, што становішча ў краіне палепшылася пасля выбрання Прэзідэнта?", станоўча адказалі ўсяго толькі 19,9 працэнта апытаных, адмоўна -- аж 73,7 працэнта. Хаця што ж тут незвычайнага, дзіўна было б, каб здарылася наадварот, бо тое, што ўзровень жыцця няўхільна падае, кожны адчувае на сабе. Цікава паглядзець на табліцу дынамікі грамадскага меркавання на прыведзенае вышэй пытанне.

| | так | не | не ведаю |
|---|---|---|---|
| кастрычнік 1994 | 11,7 | 79,9 | 8,4 |
| лістапад 1994 | 16,7 | 76,1 | 7,1 |
| снежань 1994 | 7,4 | 87,7 | 4,9 |
| 1-шы тыдзень студзеня 1995 | 7,2 | 87,8 | 5,0 |
| 4-ты тыдзень студзеня 1995 | 4,3 | 91,8 | 4,0 |
| сакавік 1995 | 5,8 | 89,2 | 5,0 |
| красавік 1995 | 8,7 | 83,8 | 7,4 |
| май 1995 | 23,5 | 66,4 | 10,1 |
| верасень 1995 | 16,9 | 71,0 | 12,0 |
| кастрычнік 1995 | 19,9 | 73,7 | 7,4 |

Нельга не заўважыць, што за адзначаны перыяд пік узрастання надзей насельніцтва на паляпшэнне жыцця прыпадаў на сёлетні май -- месяц, калі Прэзідэнт здолеў дабіцца поўнага поспеху на вядомым рэферэндуме. Не думаю, што справа ў тым, нібыта прэзідэнцкая каманда так дакладна прaлічыла рост спрыяльных адносін людзей да новай улады менавіта ў канцы вясны, што прызначыла на гэты час вялікае ўсенароднае апытанне. Хутчэй іншае. Якраз рэферэндум, які павінен быў падштурхнуць інтэграцыйныя працэсы з Расіяй, і спарадзіў уздым у настроях беларусаў. Але абяцаная манна з неба не пасыпалася, і лічбы папаўзлі ўніз.

Што ж, па меркаванню жыхароў Беларусі, трэба рабіць у першую чаргу кіраўніку дзяржавы, каб нарэшце адбыліся зрухі да лепшага? Вельмі важным лічаць:

барацьбу з павышэннем цэн -- 69,5 працэнта апытаных;
навядзенне парадку ў краіне -- 68 працэнтаў;
барацьбу з арганізаванай злачыннасцю -- 62,8 працэнта;
барацьбу з інфляцыяй -- 61,8 працэнта;
барацьбу з беспрацоўем на дзяржпрадпрыемствах -- 59,2 працэнта;
барацьбу з карупцыяй і мафіяй у структурах улады -- 57,2 працэнта і г. д.

Толькі 16 працэнтаў апытаных да найважнейшых задач Прэзідэнта адносяць падтрымку нацыянальнага бізнесу і прыватнага прадпрымальніцтва і 14,8 працэнта -- прыцягненне заходніх інвестыцый у эканоміку Беларусі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### ЧАРЛЗ ДЗІКЕНС У МУЗЕІ ЯНКІ КУПАЛЫ



**У Мінску, у музеі Янкі Купалы, адкрылася выстава, прысвечаная жыццю і творчасці класіка англійскай літаратуры Чарлза Дзікенса. У экспазіцыі, дастаўленай з лонданскага дома-музея вялікага пісьменніка, прадстаўлены фотадакументы, ілюстрацыі да яго твораў, аўтарскія рукапісы і рэчы славутага англічаніна.**

**На цырымоніі адкрыцця выставы прысутнічалі дырэктар музея Чарлза Дзікенса Дэвід Паркер, Пасол Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь Джон Эверард, аташэ па культуры Брытанскага савета Эндру Хатон і міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч.**

**НА ЗДЫМКАХ:** дырэктару музея Чарлза Дзікенса Дэвіду ПАРКЕРУ беларускія сувеніры ўручае дырэктар музея Янкі Купалы Жана ДАПКЮНАС; у час цырымоніі адкрыцця выставы.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ.



НЕПРЫКМЕТНАЯ І СТРАШНАЯ ВАЙНА

## РЭКВІЕМ КАРЭЛЬСКІХ БАЛОТ

Мы не любім успамінаць пра гэтую вайну. Хаця... Ці можна ўспамінаць, мала ведаючы першапачаткова? А мы пра яе амаль нічога не ведалі, доўгі час успрымаючы гэтыя падзеі як другарадны эпізод айчыннай гісторыі. Дык ці варта здзіўляцца таму, што нават у фундаментальных навуковых працах беларускіх гісторыкаў яна ўвогуле не ўпамінаецца, нягледзячы на тое, што на гэтай вайне загінулі тысячы нашых суграмадзян. Ды і да таго ж яна часта не ўдастойваецца самога статуса вайны, цьмяна называючыся "савецка-фінляндскім узброеным канфліктам 1939--1940-х гадоў".

У былым СССР гэтую вайну называюць "фінскай", а ў Фінляндыі -- "зімняй". І, напэўна, абедзве назвы правільныя. "Фінская" -- таму што вялася з Фінляндыяй, "зімняя" -- таму што амаль дакладна ўклалася ў рамкі каляндарнай зімы рубяжа саракавых гадоў.

А яшчэ яе называюць "неславутай". І гэтае нягучнае слова, відаць, таксама да месца. Бо няма чаго граху таіць, нямнога дадала яна славы і прэстыжу і вялікай дзяржаве, і яе зброі...

### 1. ЦЯЖКІ ШЛЯХ ДА МАЙНІЛЫ

Вялікая Савецкая Энцыклапедыя адводзіць падзеям на Карэльскім перашыйку ўсяго адну старонку.

(Працяг на 4-й стар.).

# ПРА ШТО СВЕДЧАЦЬ ЛІЧБЫ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

А за неадкладную перадачу зямлі ў прыватную ўласнасць выказалася 15,7 працэнта грамадзян.

Такім чынам, і з прыярытэтамі насельніцтва краіны ўсё зразумела: яны жыццёвыя, скіраваныя на паляпшэнне паўсядзённага жыцця чалавека, што цалкам натуральна, але ва ўсім гэтым прасочваецца і прыхаваная, але ўсё ж такі заўважная ідэалагічная падаплёка: асноўная маса людзей па-ранейшаму пры выбары жыццёвых каштоўнасцей свядома кіруецца сацыялістычнымі крытэрыямі і пастулатамі. І яшчэ адна асаблівасць поглядаў нашых землякоў. Нягледзячы на адсутнасць станоўчых зрухаў у жыцці, давер да ўсенародна абранага Прэзідэнта застаецца досыць высокім. Пра гэта сведчаць і даныя з прыведзеных ніжэй табліц.

Вельмі актуальным для сённяшняй Беларусі стала і складаная праблема ўзаемаадносін улады з законамі і Канстытуцыяй. Усё часцей апошнім часам указы кіраўніка дзяржавы ўступаюць у пэўны канфлікт з існуючым заканадаўствам, што ўжо неаднойчы засведчыў і Канстытуцыйны суд краіны. Прэзідэнт матывуе свае рашэнні цалкам мэтазгоднасцю і, здаецца, мяняць тактыку паводзін не збіраецца. Што думаюць у сувязі з гэтым жыхары Беларусі? На жаль, але больш за чвэрць апытаных (26,4 працэнта) палічылі магчымым парушэнне Прэзідэнтам законаў і Канстытуцыі дзеля навядзення парадку ў краіне. 60 працэнтаў усё ж прытрымліваюцца адваротнага пункту гледжання. Прыкладна столькі ж рэспандэнтаў (63,9 працэнта) лічаць, што Вярхоўны Савет (нягледзячы на шматлікія прэтэнзіі да яго) як галіна ўлады павінен існаваць, хаця ў рэйтынгу дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў і арганізацый парламент займае апошняе месца. Вельмі цікава, што лідзіруе тут царква. Толькі пасля гэтага ідзе Прэзідэнт, а за ім — армія. Нельга не заўважыць невысокі аўтарытэт у грамадзян урада Беларусі.

супраць -- 45,4 працэнта, не вызначыліся па ўзнятаму пытанню -- 19,5 працэнта рэспандэнтаў. За неабходнасць правядзення ў бліжэйшы час рэферэндуму па стварэнню адзінай дзяржавы з Расіяй выказаліся 40,8 працэнта, супраць -- 37,5, не мелі дакладнага адказу -- 21,7 працэнта апытаных.

### НАКОЛЬКІ ВЫ ДАВЯРАЕЦЕ ПРЭЗІДЭНТУ?

| | давяраю | не давяраю | не ведаю |
|---|---|---|---|
| лістапад 1994 | 72,2 | 24,0 | 3,8 |
| снежань 1994 | 57,4 | 37,8 | 4,8 |
| студзень 1995 | 47,4 | 44,5 | 8,1 |
| сакавік 1995 | 49,0 | 40,3 | 10,7 |
| красавік 1995 | 49,6 | 41,4 | 9,0 |
| май 1995 | 63,4 | 30,2 | 6,4 |
| верасень 1995 | 47,5 | 41,0 | 11,5 |
| кастрычнік 1995 | 53,1 | 37,7 | 9,2 |

### НАКОЛЬКІ ВЫ ДАВЯРАЕЦЕ ДЗЯРЖАЎНЫМ І ГРАМАДСКІМ ІНСТЫТУТАМ І АРГАНІЗАЦЫЯМ?

| | цалкам давяраю | хутчэй давяраю | хутчэй не давяраю | цалкам не давяраю | не ведаю |
|---|---|---|---|---|---|
| царква | 24,6 | 40,1 | 17,1 | 7,4 | 10,8 |
| прэзідэнт | 17,8 | 37,2 | 20,5 | 16,9 | 7,6 |
| армія | 13,3 | 47,5 | 16,9 | 10,2 | 12,1 |
| правасуддзе | 6,8 | 35,9 | 26,3 | 16,9 | 14,1 |
| міліцыя | 5,7 | 29,8 | 32,1 | 23,3 | 9,1 |
| традыцыйныя прафсаюзы | 5,2 | 26,6 | 29,1 | 21,0 | 18,1 |
| сродкі масавай інфармацыі | 4,5 | 45,5 | 33,3 | 9,5 | 7,2 |
| мясцовыя ўлады | 4,2 | 25,8 | 33,5 | 25,8 | 10,7 |
| незалежныя прафсаюзы | 4,1 | 15,4 | 19,8 | 17,2 | 43,5 |
| урад Беларусі | 2,5 | 30,6 | 30,1 | 20,9 | 15,9 |
| Саюз прадпрымальнікаў | 1,[illegible] | 20,1 | 26,3 | 16,0 | 35,8 |
| парламент | 1,6 | 18,6 | 35,7 | 27,8 | 16,3 |

### КАЛІ Б У БЛІЖЭЙШЫ ЧАС АДБЫЛІСЯ НОВЫЯ ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, КАГО Б ВЫ ПАДТРЫМАЛІ Ў ПЕРШУЮ ЧАРГУ?

| | за | супраць |
|---|---|---|
| Лукашэнка | 34,6 | 13,3 |
| Пазьняк | 7,3 | 40,4 |
| Шушкевіч | 3,8 | 4,9 |
| Кебіч | 3,4 | 17,3 |
| Новікаў | 1,7 | 0,3 |
| Багданкевіч | 1,5 | 0,8 |
| Карпенка | 1,4 | 0,5 |

Адна з найбольш вострых і дыскусійных праблем -- інтэграцыя з Расіяй. Некалькі год таму ўрад Вячаслава Кебіча ўжо абяцаў беларусам агульныя з Расіяй грошы -- расійскія, зразумела. Выбраны Прэзідэнт краіны, каб заручыцца сімпатыямі сваіх грамадзян, таксама зрабіў палітычную стаўку на больш цесныя стасункі з уплывовай і вялікай усходняй суседкай, і пакуль што гэта мае поспех. На момант правядзення даследавання падтрымлівалі ідэю стварэння адзінай дзяржавы з Расіяй 51,3 працэнта рэспандэнтаў, не падтрымлівалі -- 32,4 працэнта, не вызначылі сваю пазіцыю -- 16,3 працэнта апытаных.

Калі прасачыць, як размеркаваліся адказы на пытанне: "Ці будзеце вы выступаць за міждзяржаўнае аб'яднанне з Расіяй, калі гэта прывядзе да страты дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі?", убачым: грамадскае меркаванне пакуль вагаецца і значнай перавагі няма ні ў аднаго боку, ні ў другога. У лічбах гэта выглядае так: згодныя згубіць незалежнасць Беларусі 35,1 працэнта апытаных,

У такіх умовах заканамерна, што ў рэйтынгу партый найлепшая пазіцыя ў камуністаў, бо палітычныя густы, як і "аб'яднальныя настроі" значнай колькасці грамадзян Беларусі грунтуюцца на адной агульнай аснове — настальгіі па мінулых "эсэсэраўскіх" часах. А ўвогуле пакуль што рана казаць пра сталыя партыйныя сімпатыі насельніцтва. І таму небеспадстаўнымі выглядаюць апасенні некаторых левых сіл наконт усталявання ў краіне дыктатуры. З такім меркаваннем пагадзіліся 30,8 працэнта апытаных сацыёлагамі рэспандэнтаў, палічылі, што такой пагрозы не існуе, 41,7 працэнта, не знайшлі адназначнага адказу -- 27,5 працэнта апытаных.

Спадзяемся, што прыведзеныя даныя нядаўняга сацыялагічнага маніторынгу будуць цікавыя нашым чытачам і дазволяць ім лепш уявіць палітычную і сацыяльную сітуацыю, што складваецца на Бацькаўшчыне.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## НАМ ПІШУЦЬ

# ЧАМУ АЛЯКСАНДР КВАСНЕЎСКІ?

У лістападзе гэтага года праводзіліся чарговыя выбары прэзідэнта Рэчыпаспалітай Польшчы. У першым туры ні адзін з 13 кандыдатаў не атрымаў больш паловы галасоў усіх выбаршчыкаў.

Другі тур выбараў быў назначаны на 19 лістапада, а правa кандыдавання захавалі Аляксандр Кваснеўскі і Лех Валенса.

Прайграў апошні, гэта было непазбежна, калі задумацца над асобай кандыдата на чарговыя пяць гадоў прэзідэнтуры. Прайграў касцёл і ўвесь падзелены прасалідарніцкі блок.

У галасаванні ўзялі ўдзел звыш 19 мільёнаў выбаршчыкаў (68 працэнтаў прысутных да агульнага ліку). А. Кваснеўскі атрымаў 51,72 працэнта галасоў, а Л. Валенса 48,28 працэнта галасоў. Першы перамог у 34 выяводствах цэнтральнай, заходняй і паўночнай Польшчы, а другі ў 9 ваяводствах паўднёва-ўсходняй яе часткі і ў Варшаўскім, Астралэнцкім, Ламжынскім, Беластоцкім і Гданьскім (разам у 15 ваяводствах). А. Кваснеўскага падтрымалі сяляне, моладзь, рабочыя, беспрацоўныя, нацыянальныя меншасці.

У цэлым па Беласточчыне перамога Л. Валенсы склала ўсяго 1,9 працэнта галасоў. Але тэрыторыя падзялілася згодна з этнічнай прыналежнасцю (а можа веравызнаўчай?) на дзве часткі. У заходняй і горадзе Беластоку перамогу атрымаў Л. Валенса, а ва ўсходняй -- А. Кваснеўскі. Чарговы раз беларуская нацыянальная меншасць падтрымала рэпрэзентанта левых груповак. Таксама было ў ранейшых выбарах у сейм і сенат Польшчы і таксама — у мясцовыя рады нарадовыя. Выпадковасці ў гэтым няма.

Паводле першых заўваг мясцовай прэсы, ёсць гэта вынік неталерантных адносін "іерархаў і духавенства рымакаталіцкага касцёла да праваслаўя", а таксама абядненне насельніцтва гэтай часткі ваяводства ў апошнія гады, што заўважылі левыя лідэры і выказалі жаданне паправы. Здаецца, аднак, што насельніцтва гэтае без эмоцый і клерыкальнага страшэння параўноўвае ўзровень свайго папярэдняга жыцця да 1980 года і сучаснага побыту не на карысць апошняга. У гады салідарніцкіх пераўтварэнняў адчула яно гаспадарчы застой, паўперызацыю, недружалюбнасць да ўсходняй славяншчыны. Вырашыла падтрымаць новага лідэра левых Аляксандра Кваснеўскага. Ці мары зрэалізуюцца -- пажывем, пабачым. У кожным выпадку факт канчатковай перамогі левых ва ўсіх цэнтральных уладах краіны трэба нам улічваць у нацыянальнаменшаснай дзейнасці.

**Уладзімір ЮЗВЮК.**

Беласток.

# РЭКВІЕМ КАРЭЛЬСКІХ БАЛОТ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Першыя пяць радкоў артыкула вызначаюць сутнасць вайны коратка і катэгарычна: "Савецка-Фінляндская вайна 1939--1940 узнікла ў выніку палітыкі рэакцыйнага ўрада Фінляндыі, які ператварыў тэрыторыю краіны ў плацдарм для магчымага нападу агрэсіўных дзяржаў на СССР"...

Часта гавораць, што фінская вайна была ўрокам пры падрыхтоўцы краіны і РККА да Вялікай Айчыннай. У вядомай ступені з гэтым нельга не пагадзіцца. Змяніўся нарком абароны, адбыліся кадравыя перастаноўкі ў арміі, палепшылася баявая вучоба войск. Але... Увогуле, у галоўным, у цэлым -- што, не паспелі ці не захацелі зразумець, убачыць і паспець?..

"Як жа такое магло здарыцца, дзе мы недадумалі, што недавучылі!" Галоўнае, пакутлівае пытанне страшнага лета сорак першага. Таго лета, калі разбуралася ўсё, у што верылі як у вечнае і непахіснае. Нібыта перанёсшыся праз пятнаццацімесячны разрыў у часе, полымя пераможанага Выбарга, што пакідаўся апошнімі паўвыбітымі фінскімі ротамі, полымя апошняга дня той вайны, перанеслася ў першы дзень вайны гэтай.

У падзеях той далёкай зімы часта ў адным радзе стаяць з'явы глыбока антаганістычныя па сваёй прыродзе. Баязлівасць і мужнасць, талент і бяздарнасць, перамога і паражэнне. У гэтым, відаць, і заключаецца непазбежная дыялектыка вайны -- крайняй, ненатуральнай формы чалавечага выжывання і самасцвярджэння.

Карэлія -- краіна лясоў, азёр і балот. Гавораць, што, калі гэтыя непралазныя гушчары скоўваюцца траскучымі каляднымі маразамі, ад дрэў ідзе цэлая гама дзіўных гукаў. Гэта рэквіем. Рэквіем карэльскіх лясоў і балот, апошняя памінальная меса, якая гучыць у момант пераходу чалавекам зыбкай мяжы жыцця і смерці. Колькі нашых землякоў перайшлі гэтую мяжу ў тыя гады, аднаму Богу вядома. Рэквіем нашым і фінскім салдатам, забітым у глухіх азёрных дэфіле, у мёрзлых багнах карэльскіх балот. Адзіны рэквіем салдатам дзвюх армій, на чыіх абелісках напісаны разнамоўныя, але аднолькавыя эпітафіі: "Загінуў у баях за радзіму".

Відаць, імкненне да цвярозага і стрыманага, хаця часам запозненага аналізу ўласцівае самой чалавечай прыродзе. "Што было б, калі б не?.." -- такім пытаннем людзі задаюцца заўсёды.

Часта яшчэ не зачахлёны гарачыя ствалы гармат, яшчэ недатлелі галавешкі на апошніх папялішчах, а генералы ўжо перадалі толькі што скончаную вайну гісторыкам і палітыкам. І цяпер ужо яны, набраўшыся цярпення, скрупулёзна, месяц за месяцам прэпаруюць доўгую чараду падзей і фактаў, канцом якой стала ператварэнне дзяржаўнай мяжы ў лінію фронту. Менавіта ў выніку гэтых таемнасцей вышэйшай палітыкі "фінская" "зімняя" "неславутая" вайна з цягам часу набыла яшчэ адну назву -- "вайна, якой магло не быць".

Выбраўшы дзяржаўную незалежнасць, Фінляндыя зрабіла выбар і ў пытанні дзяржаўнага ладу, стаўшы буржуазнай рэспублікай. Нягледзячы на актыўную савецкую падтрымку, у маі 1918-га рэвалюцыя ў Фінляндыі пацярпела паражэнне.

Юр'еўскі мірны дагавор, заключаны ў кастрычніку 1920 года, з аднаго боку, вядома, стабілізаваў адносіны паміж дзвюма краінамі, але з другога...

Скарыстаўшы крайнюю знясіленасць свайго ўчарашняга сюзерэна, фінскі бок на перагаворах выкарыстаў жорсткі прэсінг. У асноўным гэта тычылася дэмаркацыі мяжы на Карэльскім перашыйку. У выніковым дакуменце яна дэкларавана па лініі старой мяжы паміж Расіяй і Вялікім Княствам Фінляндскім, за 32 кіламетры ад Петраграда, што разбурыла гістарычна існуючую сістэму абароны паўночнай сталіцы і зрабіла другі горад краіны тэарэтычна дасягальным нават для артылерыйскага агню з сумежнага боку.

"Жорстка, больш жорстка, яшчэ больш жорстка -- толькі так можна размаўляць з Саветамі!" -- з захапленнем каменціравалі "буйны поспех фінскай дыпламатыі" хельсінкскія газеты. Аднак сыграць на часовай слабасці магутнага суседа -- зусім не значыла заручыцца непахісным статус-кво дасягнутага на будучыню.

Менавіта там, у Юр'еве, была закладзена адна з мін запаволенага дзеяння, што амаль праз два дзесяцігоддзі ўзарве мір на Карэльскім перашыйку. У свой час адзін з патрыярхаў славутай палітыкі фінскага рэалізму -- Юха Кусці Паасіківі назаве гэты "поспех" у Юр'еве "ракавым для сваёй краіны..."

Аб'ектыўна палітычны клімат Еўропы вызначаўся ў той час трыма галоўнымі сіламі: абноўленым англа-французскім саюзам, што прагнуў змыць "ганьбу Версаля", Германіяй, якая імкліва набірала магутнасць, і шматмільённым гігантам учарашняй Расіяй, што ішла невядомым, а таму палохаючым шляхам. Вельмі хутка становіцца ясным, што кінуць якар у ціхай гавані Фінляндыі не ўдасца: занадта выгаднае стратэгічнае становішча займала яна, і еўрапейскім сталіцам было далёка не абыякава, для каго берагі Фінскага заліва стануць непрыяцельскімі. Галоўнае пытанне фінскай канцэпцыі выжывання з "як выжыць" трансфармавалася ў "з кім выжыць".

З кім? Традыцыйна фінскія сімпатыі былі на баку Германіі -- настроі сярэдняга і вышэйшага афіцэрства краіны не пакідалі, здавалася, магчымасці для іншага выбару. Але... Побач -- Швецыя, Нарвегія -- краіны англійскай арыентацыі. Раман з Германіяй патэнцыяльна выклікаў падрыў гармоніі скандынаўскага добрасуседства. Да таго ж -- Вялікабрытанія багатая, уплывовая. Флот Яе Вялікасці не меў роўных на моры.

Хто ж у гадзіну "ікс" акажацца больш магутным, і колькі часу засталося да гэтай гадзіны?..

Ну і, нарэшце, трэцяя карта -- Савецкі Саюз -- адпала сама сабой: занадта страшны быў палітычны блок з "чырвонымі", занадта туманныя і няпэўныя перспектывы. Ды і з мяжой поўнай яснасці па-ранейшаму не было. Між тым "жорсткі курс" у адносінах СССР стаў, падобна, даваць пабочныя з'явы. У многа разоў узросшая актыўнасць правых рухаў у краіне, заклікі "адсунуць мяжу да Урала" і аб'явіць "трэцяе тысячагоддзе тысячагоддзем народаў ледавітых мораў" -- усё гэта выклікала нерашучасць нават у бывалых парламентарыяў. Эскалацыя ультраправых настрояў яўна не задавальняла Лондан і Парыж.

Савецкія спробы наладзіць дыялог з Фінляндыяй разбіваліся, нібыта хваля аб камяністы бераг фіёрда. Тым не менш у пачатку трыццатых, здаецца, з'яўляецца святло ў канцы тунеля: Фінляндыя і СССР заключаюць дагавор аб ненападзенні і мірным уладжванні канфліктаў, які ў 1934-м быў прадоўжаны да снежня 1945-га. Аднак узаемны недавер тым не менш працягваў расці.

Нягледзячы на тое, што ў 1935 годзе Фінляндыя афіцыйна заявіла аб сваім нейтралітэце, яе даварот у кільватэр германскай палітыкі прымаў усё больш трывожныя формы. Фраза, аднойчы кінутая Свінхувудам адносна таго, што "патрыятызм мае два бакі: любоў да сваёй радзімы і нянавісць да Расіі", падмацоўвалася канкрэтнымі справамі: мацнела фінска-германскае "брацтва па зброі", узмоцненымі тэмпамі праводзілася будаўніцтва ўмацаваных раёнаў на савецкай мяжы.

Прычыны для сур'ёзнай занепакоенасці былі і ў Фінляндыі -- што ж, з песні слова не выкінеш... Вельмі многае з таго, што адбывалася ў СССР, не магло быць незразуметым, а тым больш прынята на Захадзе ўвогуле, ні Фінляндыяй у прыватнасці. Гэта і сталінская калектывізацыя на вёсцы, і рэпрэсіі НКУС, і, нарэшце, мякка кажучы, малапрыемныя для Захаду абяцанні "знішчыць капіталізм ва ўсім свеце" ў спалучэнні з заклікам да пралетарыяў усіх краін яднацца для ажыццяўлення гэтых задум.

Жнівень 1939-га літаральна кінуў Хельсінкі ў шок пактам Молатава-Рыбентропа.

Фінляндыя адчувала сябе кінутай адзін на адзін са Сталіным, пакінутай бліжэйшым партнёрам. На фоне росту ваенных прыгатаванняў адбывалася паспешлівае збліжэнне краіны з новымі "сябрамі" -- англа-французскім блокам. У выніку ва ўсёй гэтай гісторыі ў выйгрышы аказаўся Гітлер, які атрымаў зусім задарма, за кошт свайго паўночнага саюзніка магчымасць наладзіць грандыёзныя крывавыя "манеўры" з удзелам галоўнага працаўніка ў будучыні -- Чырвонай Арміі.

А тым часам набліжалася развязка. Патрабаванні Сталіна да Фінляндыі сапраўды былі сур'ёзныя: уступіць практычна ўвесь Карэльскі перашыек, адсунуўшы тым самым мяжу на сто кіламетраў на захад, перадаць СССР частку паўвострава Рыбачы, прадаставіць у арэнду паўвостраў Ханка для будаўніцтва на ім савецкіх ваенна-паветранай і ваенна-марскіх баз з персаналам 5 000 ваеннаслужачых. Узамен Фінляндыі прапаноўвалася тэрыторыя ў савецкай Карэліі, удвая большая па плошчы.

Меркаванні ў парламенце падзяліліся. Напрыклад, галоўнакамандуючы фінскай арміяй маршал Манергейм заяўляў, што лічыць такі абмен нават выгадным, акрамя таго, ён "не думае таксама, каб прэстыж Фінляндыі пацярпеў, калі б мы згадзіліся на такі абмен". Так лічыў і Паасіківі. Аднак у выніку ўзяў верх пункт гледжання прыхільнікаў "жорсткага курсу" -- Каяндэра, Эрка, Танера. Вынік: Фінляндыя адказала адмовай...

У рэшце рэшт перагаворы ў Маскве зайшлі ў тупік. Прычым фінская дэлегацыя абарвала іх не "проста так", а з падкрэсленым выклікам, заявіўшы, што ў яе "ёсць больш важныя справы ў Хельсінкі".

Ці былі абгрунтаваныя прэтэнзіі Савецкага Саюза да Фінляндыі? Складанае пытанне. З аднаго боку, яны, безумоўна, вытлумачальныя з пункту гледжання забеспячэння бяспекі Ленінграда, а з другога -- Фінляндыя, як суверэнная дзяржава, мела права прымаць ці не прымаць прапановы, што закраналі яе тэрытарыяльную цэласнасць. З міжнародна-прававога пункту гледжання гэта таксама безумоўна. Вось толькі гібкасці і цвярозага разліку дыпламатыі Вяйне Танера так і не хапіла...

"Жадаючы міру -- рыхтуйся да вайны". Першая частка гэтай мудрасці старажытных была цалкам забытая з абодвух бакоў мяжы.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

(Працяг будзе).

## СЛУЦКІ ЗБРОЙНЫ ЧЫН





**2 снежня на Случчыне адзначаліся 75-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну. Вызна, Грозава, Семежава... менавіта ў гэтых мясцінах адбываліся гістарычныя падзеі, адзін з актаў барацьбы за незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. У пяцітомнай "Гісторыі Беларускай ССР", выдадзенай у 1972--1975 гадах, ні словам не згадваюцца слуцкія падзеі 1920 года. У выдадзеных у 1995 годзе "Нарысах гісторыі Беларусі" падзея згадваецца, што ўжо само па сабе з'яўляецца станоўчым момантам, хаця асвятляецца яна з пазіцый былой савецкай гістарыяграфіі.**

**На працягу апошніх гадоў на Случчыне ў канцы лістапада ўшаноўваецца памяць тых, хто аддаў жыццё за свабоду Айчыны. У вёсках Семежава і Грозава раней ужо былі ўсталяваны крыжы ў памяць аб загінуўшых продках. Сёлета такі крыж з'явіўся і ў Вызне (сярэдні здымак). На будынку, дзе ў лістападзе-снежні 1920 года размяшчаўся Нацыянальны камітэт Случчыны БНР па падрыхтоўцы і каардынацыі дзеянняў слуцкіх паўстанцаў, прымацавана дошка (першы здымак). Сярод тых, хто 2 снежня накіроўваўся на Случчыну, быў сын Антона Сокал-Кутылоўскага, аднаго з кіраўнікоў паўстання, -- Леанід СОКАЛ-КУТЫЛОЎСКІ (на трэцім здымку крайні злева).**

**Фота У. КАРМІЛКІНА.**

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"

Таксама даведаўся, што паліцыя шукае мяне. Зрабілі вобыск у гадзіньнікавага майстра Мужаньскага і ў Юзіка Трафіды, але я там не зьяўляўся.

Шчур апавядае ўсім у мястэчку пра тое, як напраўдзе здарылася паміж мною і Алінчукамі, што гэта яны першыя зачапілі мяне на вуліцы. Амаль усе хлопцы на маім баку. Зараз браты Алінчукі ня могуць паказацца на вуліцы: хлопцы насьміхаюцца і зьдзекуюцца зь іх. Шчур і Лорд два разы вымазвалі дзёгцем браму і ваканіцы іх хаты -- што звычайна робяць дзяўчыне, на якую маюць злосьць. Вымазаная дзёгцем брама (або ваканіцы) азначае: тут жыве непрыстойная дзяўчына. А паколькі ў Алінчукоў няма сёстраў, усё гэта адрасуецца ім.

Некалькі разоў сустракаўся з Лордам, Каметай, Юлікам і Петрусём. Хлопцы вельмі зычлівыя да мяне. Прапаноўваюць грошы і надзейныя схованкі. Гэта вельмі кранае мяне. Ня думаў, што маю столькі сяброў. Аднаго разу Шчур сказаў:

-- Ты глядзі, калі раптам здарыцца, што цябе будзе арыштоўваць паліцыя, дык не бараніся. Разумееш? Калі арыштуюць, я паклапачуся пра цябе. Знойдуцца грошы, нават вялікія, на працэс і на адваката. Хлопцы дакладуць некалькі гузікаў, і назьбіраецца пару кавалкаў.

Нягледзячы на тое, што жыў нелегальна, тройчы хадзіў за мяжу. Фартаваў зь "дзікімі". Тыя не баяцца працаваць са мной. А калі б хто захацеў мяне засыпаць, ня здолее гэтага зрабіць. Пра маю схованку ніхто, акрамя Шчура, ня ведае. Каб мне было весялей, ён часта начуе ў гумне. Я двойчы заглядаў да Калішанак, але не начаваў там, а крыху пазабаўляўся і -- айда на мяліну.

Штодзённае пакрыёмае жыцьцё ў гумне пачынае мне надакучаць. Калі самотны марнуюся там доўгія дні, у галаву прыходзяць розныя дурныя думкі. Часта зьяўляецца жаданьне пайсьці пастраляць Алінчукоў і здацца паліцыі. А найбольш думаю пра Фэлю. Асабліва калі зьмяркаецца. Сьмяюся і размаўляю зь ёй уголас... Можа, я вар'ят?.. Штораз больш п'ю. Сьпірт п'ю, як гарэлку, гарэлку -- як піва, піва -- як ваду. Аднак не напіваюся да непрытомнасьці. Ведаю: гэта для мяне асабліва небясьпечна. Толькі прысутнасьць Шчура мяне падбадзёрвае. Ня ведаю, чым яму аддзячыць за ўсё: ён такі прыкры і задзірысты для многіх, са мной жа заўсёды памяркоўны і вельмі ўважлівы. Ніколі не ўжывае моцныя выразы і ня лаецца без "крайняй патрэбы". Часта спыняе на вуснах якую-небудзь лаянку ў палове выраза.

Неяк Шчур сказаў, што Юзік Трафіда хоча мяне ўбачыць. Я перадаў, каб чакаў а 10-й увечары на Слабадзе, на мосьце ля млына.

Вечар быў цёмны. Пракраdаліся разам са Шчурам па вуліцах і завулках у напрамку Слабады. Юзік ужо чакаў нас. Пасьля Шчур пайшоў назад у мястэчка, а я зь Юзікам -- у бок млына. У надзейным месцы прыселі на беразе Ісдачы. Доўга маўчалі, а потым Юзік запытаўся:

-- Як жывеш?

-- Неяк трымаюся.

-- Можа, хочаш выехаць адсюль?

-- Куды я паеду?

-- Ёсьць у мяне недалёка ад Івянца сваякі на вёсцы. Калі хочаш, дык уладкую ў іх...

-- Не. Не хачу. Там памёр бы з нуды.

Зноў маўчаньне. Праз нейкі час Юзік кажа:

-- Дай граблю!

Моцна паціскае мне далонь і, стрымліваючы ўзрушэньне, вымаўляе:

-- Дзякуй табе!

-- За што?

-- Ну, за... Альфрэдчыка. Зараз яго за сабаку ўсе лічаць.

-- Шкада, што не забіў гада! -- кажу зь нянавісьцю.

-- Не шкадуй! Так лепш!

Зноў надыходзіць працяглае маўчаньне. Пасьля я пытаюся:

-- А ты што мяркуеш рабіць? Не зьбіраеш групу?

-- Я? -- пытае зьдзіўлены. -- Не. Са мной, браток, крышка. З граніцай я разьвітаўся назаўсёды!

-- Та-а-ак?

-- Так, браце!.. Адну сястру страціў, па начах як воўк лазячы. Другую ня дам пакрыўдзіць!.. Не, халера!..

Пачуў, як скрыгатнуў зубамі. Было цёмна. Я ня бачыў яго зусім, але адчуваў, як пакутуе сябра. Ён вельмі любіў сястру. Мне таксама смылела сэрца. Таму прамовіў:

-- Супакойся, Юзік, Альфрэд атрымае за сваё.. зь ім яшчэ ня скончана. Кажу табе... -- Хвіліну павагаўшыся, дадаў: -- Толькі нікому гэта не [illegible]аказвай: Алінчукі трымаю[illegible]вязь з падпольнікамі ў Саветах.

-- Та-ак?

-- Так... Я даведаюся пра ўсё. Тады разлічымся зь імі, раз і назаўсёды.

Зноў западае доўгае маўчаньне. Потым Юзі[illegible]ьвяртаецца да мяне:

-- Можа, табе нешта [illegible]эба?

-- Не. Я ўсё маю.

-- А як штосьці будзе неабходна, дык перадай!

-- Добра.

Пасьля Юзік кажа:

-- Навошта я цябе сюды сьцягнуў? Ты быў бы шчасьлівейшы, калі б ня ведаў граніцы!

Я горача запярэчыў:

-- Не кажы так. Вельмі ўдзячны табе і за дабрыню сэрца, і за сяброўскую дапамогу. Я шчасьлівы, браце! Часамі мне сумна, але з гэтым не парадзіш. Ніколі ня думай так і не кажы мне пра гэта!..

Мы доўга размаўлялі, седзячы ў цемры на беразе рэчкі. Пасьля разьвіталіся, і я, узрушаны, доўга крочу невядома куды завулкамі. Ноч цёмная. Немагчыма разгледзець твар рэдкіх мінакоў.

Позна ноччу вяртаюся ў сваю схованку. Выпіў палову пляшкі гарэлкі і залез на сена. Аднак заснуў ня хутка.

Нараніцу сустрэўся з Лордам. Шчур перадаў, што ён мае нейкую пільную справу. Лорд чакаў нас на могілках. З сабой у яго было тры пляшкі гарэлкі і крыху закускі. Седзячы на траве каля нізкага каменнага тыну, мы пілі гарэлку... Пасьля я запытаў:

-- Што ты хацеў сказаць?

-- Фэля пыталася пра цябе.

На хвіліну ў мяне адабрала мову. Добра, што сябры ня бачылі выразу твару. Потым я нібы абыякава запытаўся:

-- Што ёй трэба?

-- Яна чула, што ты некалі меў сутычку з Алінчукамі пры касьцёле, а другі раз тады, як падстрэліў Альфрэда. Што ён нібыта сказаў пра яе нешта абразьлівае, а ты за гэта выстраліў.

З хвіліну я не адгукаўся, а пасьля прамовіў:

-- Пра першы выпадак ты і сам добра ведаеш. А калі Алінчукі ўначы прычапіліся, дык Альфрэд сказаў непрыстойнае пра мяне і Фэлю разам. Аднак я нікому пра гэта не казаў. Не разумею, адкуль яна даведалася.

-- Уласна, пра гэта Фэля і прасіла мяне спытаць у цябе: што сказаў табе пра яе Альфрэд?

Я яшчэ вагаўся. Тады Лорд вымавіў:

-- Ты кажы. Фэля -- гэта такая баба, якой можна ўсё расказаць! Ёй гэта трэба. Можа, раскажа Сашку...

-- Альфрэд сказаў... -- я дакладна паўтарыў Лорду словы Алінчука.

-- Добра, -- прамовіў калега. -- Перадам ёй.

-- Лепей не кажы. Можа, разгневаецца, што я даю падставы абгаворваць яе.

-- Ты за гэта не перажывай. Яна нічыіх языкоў не спалохаецца. Яна сабе парадзіць. Проста хоча ведаць усю праўду.

Хутка Лорд разьвітаўся з намі.

-- Пойдзеш да яе? -- запытаўся я ў яго.

-- Так. Можа, хочаш штосьці сказаць?

-- Не... Нічога...

-- Да сустрэчы!

-- Шчасьліва!

Я і Шчур яшчэ доўга ляжалі на могілках. Ён апавядаў мне пра апошнія здарэньні на граніцы, пра мястэчковыя навіны, пра тое, што чуваць у хлопцаў. Пасьля правёў мяне ў гумно і пайшоў да мястэчка.

У тую ноч я доўга не засынаў. Усё думаў пра Фэлю...

Назаўтра, як толькі зьмяркалася, да мяне прыйшоў Шчур. Быў вельмі вясёлы, таямніча міргаў вокам і безупынку ўсьміхаўся.

-- Зараз пойдзем у адно месца. Хутчэй зьбірайся!

-- Куды? Чаго?

-- Убачыш...

-- Каго? Што?

-- Бач, які ты?.. Пацярпі трошкі. Будзеш задаволены!

Пасьпешліва крочыў каля сябра, стараючыся разгадаць, што гэта можа быць. У адным месцы мы пералезьлі праз паркан у агарод і ўвайшлі на падворак чыйсьці хаты. Неўзабаве апынуліся на парозе вялікага будынка з выбеленымі вапнай сьценамі.

Я ўбачыў Сашку і Жывіцу, якія сядзелі за сталом.

-- А, ёсьць! -- вымавіў Сашка.

-- Ёсьць, -- адгукнуўся Шчур.

Падышоўшы да стала, я пацiснуў руку Сашку і Жывіцы.

-- Сядай! -- сказаў Сашка. -- Пагутарым трохі.

Я сеў за стол.

-- Дык ты добра яго выфранціў! Нібы пярлінку! -- прамовіў Сашка.

-- Трэба было... Зачапілі мяне...

-- Гэта добра -- як трэба, дык трэба!

Сашка наліў да паловы чатыры шклянкі гарэлкі і кіўнуў нам галавой:

-- Ну, шахнем!

Усе адразу выпілі.

-- Дык зараз табе цесна тут?.. Хаваешся?.. -- казаў далей Сашка.

-- Так, хаваюся. Але неяк жыву, ды і на работу хаджу таксама. Ён мне дапамагае! -- я паказаў галавой на Шчура. -- Калі б ня ён -- ня ведаў бы, што і рабіць!

Сашка ляпнуў Шчура даланёй па плячы і запытаўся ў мяне:

-- З кім фартуеш? З Юрлiным?

-- Не... Зь "дзікімі"...

Жывіца адрывіста засьмяяўся.

-- Зь "дзікімі"?! -- выгукнуў Сашка.

-- Так... А што рабіць?.. Астатнія баяцца мяне. Хіба што "на сваю руку" хадзіць...

Сашка задумаўся. Доўга зьнерухомлена глядзеў у кут пакоя. Раптоўна ў яго на лбе пралегла вертыкальная доўгая складка... як у Фэлі. Я, узрушаны, гляджу на яго і маўчу... Маўчым усе. Шчур пакусвае ніжнюю вусну і пазірае то на мяне, то на Сашку, то на Жывіцу, які камячыў у пальцах кульку з хлеба.

Пасьля Сашка глядзіць мне ў вочы і кажа:

-- Заўтра пойдзеш са мной на работу!

Не разд[illegible]ваючы, я радасна выгукнуў

-- З ахво[illegible]!

Бачу ўсьмешку на твары Шчура. Сашка зьвяртаецца да Жывіцы:

-- Спатрэбіцца ён нам?.. Як?..

-- Спатрэбіцца, -- у знак згоды кіўнуўшы галавой, адказвае Жывіца.

-- Ну, т[illegible] граблю!

Сашка мо[illegible]на паціскае мне далонь. Жывіца ідзе за яго прыкладам, толькі сьціскае зьлёгку. Моцны поціск яго рукі мог бы зьнявечыць мне пальцы. Сашка зноў налівае ў шклянкі гарэлкі і кажа:

-- Ну, дык за посьпехі!.. Шахнем!..

Выпілі.

Гляджу на Сашкаў лоб... Ён гладкі... Маршчынка зьнікла. Радасна гляджу ў вочы сяброў... Мне становіцца так лёгка і весела... Зноў чую голас Сашкі:

-- Ну, шахнем, браткі!

Стаяла сярэдзіна кастрычніка. Ночы былі доўгія, цёмныя. Восень ахінула граніцу і пагранічча. Выслалася жоўтымі кілімамі лістоты.

Мы перакінулі праз граніцу ўжо дзевяць партый тавару. Некалькі разоў пасьпявалі за адну ноч перанесьці тавар за граніцу на мяліну і пад раніцу вярнуцца назад дахаты. Усё перакідваем сахарын, які прывезьлі з сабой. Тавару ўжо засталося няшмат. Я мяркую, што пасьля заканчэньня "салодкага інтарэсу" мы пачнём насіць новы тавар. А можа, Сашка зробіць перапынак. Не пытаюся ў яго. Увогуле размаўляем мала, толькі пра важныя, патрэбныя справы. Зжыліся ўсе вельмі блізка. Часта разумеем адзін другога без слоў -- адным жэстам, адным позіркам.

Тры дні запар не ішлі ў дарогу. Ліло безупынку. Дождж размачыў мясцовасьць. Стварыў шмат новых азёр. Малыя ручаі ператварыліся ў вірлівыя рэчкі. Учора ўначы дождж перастаў і выпагадзілася. Цэлую ноч і ўвесь дзень быў вецер з захаду.

Па абедзе Сашка выйшаў з хаты. Праз вокны я бачыў, як ён пайшоў да лесу, што чарнеў непадалёку ад хутара. Адсутнічаў больш дзвюх гадзін, а калі вярнуўся, дык вымавіў:

-- Сёньня ідзём... З гэтым трэба канчаць...

Жывіца кіўнуў яму галавой і далей гуляў са мной у карты -- у 66. Гулялі проста так.

Пасьля трох выпраў за граніцу Сашка даў мне 75 даляраў.

-- Твая доля, -- прамовіў ён коратка.

Пасьля трох наступных -- даў мне яшчэ 100 даляраў. Напэўна, таму, што я ўжо браў не сарака-, а пяцідзесяціфунтовыя ношкі. Калі мы вярнуліся з апошняга падарожжа -- зноў даў мне 100 даляраў. Зараз маю 275 даляраў. Я запытаўся ў Сашкі, колькі павінен гаспадару за харчаваньне. Ён адказаў:

-- Гэта цябе не абыходзіць! Гэта я арганізоўваю.

У дарогу вырушылі вельмі рана, як толькі зьмяркалася. Вецер зьмяніўся і дзьмуў зараз з усходу. Неба ачысьцілася ад хмар. Месяц каціўся ўгары -- вялікі, бляклы, скрыўлены, нібы пасьля касторкі.

Крочыць было цяжка -- залева ператварыла палеткі ў балота. Мы з намаганьнямі выцягвалі ногі з балота. Нарэшце дабраліся да лесу. Тут ісьці лягчэй, толькі вельмі цёмна. Промні месяца ледзь-ледзь прабіваюцца дзе-нідзе паміж гальля.

Амаль кожны раз ідзём за граніцу іншай дарогаю. Напрамак -- заўсёды адзін, толькі разлічваем так, каб граніцу перасячы ў іншым месцы. Сашка бярэ пад увагу, што мы заўсёды пасьля сябе пакідаем сьляды, таму на нашай сьцежцы зялёнкі могуць наладзіць засаду, разлічваючы, што калі-небудзь мы будзем вымушаныя пайсьці па адным з добра знаёмых шляхоў. Аднак мы ніколі не ідзём два разы адной і той жа дарогай. Толькі ў тылах ня так часта зьмяняем яе. Там больш бясьпечна.

Сёньня з самага пачатку ўсё ўскладняла наша падарожжа. Сашка гэта прадбачыў, таму так рана выйшлі... Ногі гразнуць у балоце амаль па калена. Там, дзе за некалькі дзён перад гэтым былі лужы, сёньня стаялі азёры, дзе былі ручайкі, сёньня бруяць вадаспады, дзе былі вадаспады, зараз ужо рэкі. Востры, халодны вецер рэжа па вачах, не дае дыхаць. А найгорш -- гэта Лысы. Сьвеціць ярка, моцна, нібы ўвайшоў у хаўрус зь зялёнкамі. Ён асьвятляе нас, як з рэфлектара, снапом промняў, і мы бачны на значнай адлегласьці.

Доўга стаім на ўскрайку лесу. Перад намі знаходзіцца вялізная адкрытая прастора, на сярэдзіне якой пралягла граніца... Ступаем на балота. Пераскокваючы з купіны на купіну, памалу сунемся наперад.

Хоць я амаль па пояс мокры і ў балоце, аднак мне горача: рух разаграе цела. Нарэшце пераходзім граніцу і крочым па прамой. Раптоўна Сашка прысьпешвае крокі і штораз ідзе хутчэй. Гэта мяне зьдзіўляе, але, не азіраючыся па баках, іду сьледам за Жывіцам. Тады ззаду выбухае карабінавы стрэл. Мне падаецца, што ён даляцеў да маіх вушэй зь вельмі далёкай адлегласьці, бо моцны ўсходні вецер адносіць гук стрэлу назад. Магчыма, што там, як звычайна, крычаць: "Стой! Стой! Стой!", аднак я ня чую слоў.

Вакол усё часьцей пачынаюць сьвісьцець кулі! Я азіраюся і бачу людзей, якія бягуць на адлегласьці 200 крокаў ад нас... Іх некалькі дзесяткаў. Рассыпаліся ланцугом. "Адкуль столькі салдат?" -- думаю, прастуючы за сябрамі.

Сітуацыя крытычная. Адступаць нельга. А да бліжэйшага лесу на ўсходзе больш пяці кіламераў. Непадалёку ёсьць пералескі і грывы кустоў, але яны ня могуць схаваць нас ад пагоні.

Сашка зварочвае на паўднёвы ўсход. Амаль бяжым. Стрэлы грымяць без перапынку. На шчасьце, не трапляюць у нас. Дабраліся да густых зарасьляў лазьняку. Затрымаліся. Сашка кідае:

-- Падпусьціць блізка!.. Пасьля секануць!..

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 29—49.**

## НА АРЭНЕ — ЦЫРК ЛІЛІПУТАЎ







**Мінскі дзяржаўны цырк запрашае на новую праграму сезона 1995--96 года. У госці да мінчан прыехаў цырк ліліпутаў "Ззянне маленькіх зорак". Гледачы змогуць убачыць выступленні велафігурыстаў, эквілібрыстаў на першах, клоунаў, атракцыён "Мядзведжы лабірынт" і многае іншае.**

**НА ЗДЫМКАХ:** артысты і гледачы.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

**КОНКУРС**

## ПОЛЬСКАЕ РАДЫЁ ДЛЯ ЗАМЕЖЖА

**Польскае радыё для замежжа -- V Праграма арганізуе сёлета ў снежні (01--31.12.1995) конкурс для слухачоў радыёперадач на беларускай, літоўскай, расійскай, украінскай і чэшскай мовах.**

**Сярод тых, хто ў снежні будзе слухаць нашы перадачы, будуць разлясаваныя два радыёпрыёмнікі ды шматлікія іншыя ўзнагароды.**

**У рапартах пра чутнасць беларускамоўных перадач з Варшавы павінны знайсціся такія інфармацыі, як дата, час, хваля і ацэнка чутнасці, а таксама кароткія заўвагі пра змест перадачы.**

**Вашых рапартаў будзем чакаць да паловы студзеня 1996 года. Просім дапісаць на канверце "КОНКУРС".**

**Прозвішчы тых, каму паспрыяе лёс, будуць пададзены да публічнага ведама ў нашым эфіры ў палове лютага будучага года. Усе, хто атрымае ўзнагароды ў нашым конкурсе, будуць паінфармаваныя аб гэтым таксама і ў пісьмовай форме.**

**Зычым вам многа шчасця і чакаем вашых рапартаў.**

## СПОРТ

ШАХМАТЫ. На першынстве Еўропы сярод юніёраў, што прайшло ў Ізраілі, мінчанін Юрый Шульман заняў першае месца.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. Міжнародныя спаборніцтвы марафонцаў прайшлі ў Пекіне. Беларускі бягун Уладзімір Котаў заняў трэцяе месца. Каманда нашых жанчын фінішавала пятай.

ГАНДБОЛ. Завяршыўся групавы адборачны турнір першынства Еўропы. У апошніх турах беларускія гандбалісты сустракаліся з камандай Францыі. У першым матчы нашы землякі выйгралі -- 31:28, а ў другім уступілі чэмпіёнам свету з лікам 25:28 і занялі трэцяе месца.

## ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЛІСТ

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь,**
**Аб'яднанне дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь,**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі,**
**Міжнародная асацыяцыя беларусістаў,**
**Інстытут літаратуры Акадэміі навук Беларусі,**
**Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія,**
**Горацкі гісторыка-этнаграфічны музей**

*23--24 красавіка 1996 года праводзяць V Гарэцкія чытанні, прысвечаныя вывучэнню жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага, яго месцу і ролі ў духоўнай культуры Беларусі.*
*На чытаннях будзе разгледжана фальклорная спадчына Ефрасінні Міхайлаўны Гарэцкай.*

**Заяўкі на ўдзел у чытаннях з указаннем тэмаў дакладаў і паведамленняў просім накіроўваць да 15 студзеня 1996 года на адрас:**
**220029, г. Мінск, вул. М. Багдановіча, 15.**
**Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры.**

**Матэрыялы чытанняў будуць выдадзены асобным зборнікам.**

**Даведкі па тэл. 34-56-21, 76-94-75, 34-72-61.**

**АРГКАМІТЭТ.**

# КАШТОЎНАСЦІ ЛАГОЙСКАГА ПАЛАЦА

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Акрамя лагойскага музея, Тышкевічы мелі музейныя калекцыі і бібліятэкі ў Астрашыцкім Гарадку, мястэчках Ізабеліна, Вялае і Красны Двор.

Але Яўстах Тышкевіч быў не задаволены тым, што лагойскі ...й меў мала наведвальнікаў. ...йск быў невялікім мястэчкам усяго з дзвюма тысячамі жыхароў, і Яўстах задумаў стварыць на базе ўласнага музея публічны музей у Мінску, як цэнтры Мінскай губерні, або ў Вільні, як цэнтры генерал-гу...атарства.

...б выклікаць цікавасць людзей да дабрачыннага стварэння публічнага краязнаўчага музея ў Беларусі, Яўстах едзе ў Вільню і арандуе ў віленскага сваяка Рафала Тышкевіча невялікі двухпавярховы будынак пад назвай "палацык", у якім у 1845 годзе адкрывае выставу з часткі экспанатаў лагойскага музея.

У 1852 годзе браты Тышкевічы пішуць ліст у Пецярбург з просьбай дазволіць ім адкрыць публічны музей у Мінску або Вільні. Пакуль яны чакалі адказу, у віленскі "палацык" пачалі прысылаць розныя беларускія старажытнасці з многіх гарадоў і мястэчак Беларусі. Нарэшце быў атрыманы дазвол з Пецярбурга на стварэнне Віленскага музея старажытнасцяў. Яўстах і Канстанцін ахвяравалі музею сваю частку экспанатаў лагойскага музея і 3 тысячы кніг. На працягу 1852--1855 гадоў яны вялі археалагічныя раскопкі і збор экспанатаў на тэрыторыі этнічна беларускай і толькі ў тых рэгіёнах Віленскай і Ковенскай губерняў, дзе жыло пераважна беларускае насельніцтва. Знаходкі паступалі і з Віленскага павета, дзе пражывала толькі два працэнты літоўцаў, і з Трокскага, дзе пражывала іх трошкі болей.

Нарэшце ў 1856 годзе музей быў адкрыты: у ім было больш за 12 тысяч экспанатаў. Але радасць беларускіх патрыётаў была нядоўгая. Пасля вызваленчага паўстання 1863 года Віленскі музей старажытнасцяў быў закрыты ў 1864 годзе па загаду генерал-губернатара края Мураўёва, які палічыў музей цэнтрам "польскай інтрыгі". Усе экспанаты музея "прарэвізавалі" і як шкодныя для Расійскай імперыі адправілі ў Маскву. Асабліва шкадаваў Яўстах вывезеныя унікальныя музейныя калекцыі. Не ўзрадаваўся ён і пасля таго, як Мураўёў вырашыў вярнуць у Вільню 206 экспанатаў з ліку вывезеных некалькіх тысяч.

Экспанаты Віленскага музея старажытнасцей паступілі ў 1868 годзе ў Маскоўскі Румянцаўскі музей, а пазней іх падзялілі паміж Дзяржаўным гістарычным музеем і Дзяржаўным музеем выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна. У апошнім і цяпер захоўваецца больш за 1 000 гравюр XVI--XIX стагоддзяў і літаграфій першай паловы XIX стагоддзя.

А ў Дзяржаўным гістарычным музеі Расіі так і застаўся партрэт Яўфражыны Тышкевіч XVII стагоддзя, партрэты роду Янішэўскіх XVII стагоддзя, калекцыя мастацкай зброі генерала Касакоўскага. І яшчэ 1 093 карціны і абразы, унікальная аршанская кальчуга са славянскімі пісьмёнамі і шмат іншых экспанатаў. Частка збораў Віленскага музея старажытнасцей, якая засталася ў Вільні, пазней трапіла ў калекцыю польскага этнографа З. Глогера, а ад яго -- у Нацыянальны музей Варшавы. Менш значная частка засталася ў Вільні. У савецкі час улады Літоўскай ССР падзялілі экспанаты былога Віленскага музея старажытнасцей паміж рознымі музеямі Літвы, а супрацоўнікаў Беларускага нацыянальнага музея ў Вільні (у якім Іван Луцкевіч сабраў частку экспанатаў былога музея старажытнасцей) рэпрэсіравалі.

Так усе намаганні братоў Тышкевічаў стварыць беларускі нацыянальны музей пайшлі прахам. І мы, іх нашчадкі і прыхільнікі беларускай культуры, павінны прыкласці намаганні, каб вярнуць хоць частку з сабраных Тышкевічамі каштоўнасцей.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак.7048. Падпісана да друку 11.12.1995 г.**